# БЮЛЕТЭНЬ

Рэспубліканскага Камітэту Прафэсыянальнага Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў Б. С. С. Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Арг. сектар. № 4-08.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ДВА ТЫДНІ

№ 3 | 20-га жніўня 1931 году | № 3




## ЗЬМЕСТ



## ПАСТАНОВА

### Рэспубліканскага Камітэта Саюза Рабочых Жывёлагадоўчых Саўгасаў аб рэалізацыі пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 30/VII — 31 г. па разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

*Ад 9/VIII—31 г.*

Улічваючы выключнае гаспадарча палітычнае значэньне пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР як баявой бальшавіцкай праграмы па разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі, Прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў пастанаўляе:

1) Абвясьціць з 15/VIII па 15 IX—31 г. месячнік папулярызацыі пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР, ператварыўшы яго — гэты месячнік у масавы месячнік штурму па хутчэйшай ліквідацыі прарываў, маючых мейсца па саўгасам, дабіўшыся выкананьня і перавыкананьня промфінпляна. Штурмавы месячнік ува ўсіх саўгасах павінен прайсьці пад лёзунгам: „Ні воднага рабочага, работніцы і спецыяліста не ведуючага пастановы Партыі і Ураду і не ўдзельнічаючага актыўна ў яе рэаллізацыі".

2) У дапамогу рабочым Камітэтам па практычнай рэалізацыі пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР зараз жа камандыраваць тэрмінам на 20 дзен з Рэспубліканскага Камітэту саюзу—5 працаўнікоў, апарату трэсту 12 чал. і акрамя гэтага паслаць 5 рабочых брыгад. Адказнасьць за пасылку людзей ускласьці на тав. КАРПУСЕНКА.

3) Абавязаць усе рабочыя камітэты саўгасаў зараз жа прыступіць да шырокай, масавай папулярызацыі і прапрацоўкі пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР шляхам правядзеньня зьлёту ударнікаў, брыгадных, цэхавых, і агульна саўгаскіх сходаў рабочых. На гэтых нарадах і сходах рабочыя павінны быць прыняты канкрэтныя пастановы і абавязацельства рабочых па поўнай і хуткай рэалізацыі пастановы партыі і Ураду, забясьпечваючыя выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну па ўсім колькастным і якастным паказьнікам.

4) Прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэту катэгарычна патрабуе ад усіх рабачкомаў саўгасаў таго, каб уся работа па рэалізацыі пастановы ЦК і СНК была—б пастаўлена на баявыя рэйкі выключна мэтадамі сацспаборн. і ударн.

рыгады з брыгадай, участка з участкам, цэх з цэхам, так і саўгас з саўгасам. Трэба хутка ўсе прынятыя пастановы і абавязацельства рабочых публікаваць, як у насьценгазэтах, так і у энтральным друку і асабліва у газэце „Сельгасрабочы Беларусі“. Трэба ўставіць сыстэматычны рабочы кантроль ад поўным і свавчасовым выкананьем усіх прынятых мерапрыёмств па эалізацыі пастановы Партыі і Ураду і аключаных сацумоў. Трэба ўсю работу раводзіць у напрамку далейшага закіку росту новых калён ударнікаў імя астановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР.

5) Для хутчэйшай рэалізацыі пастановы Партыі і Ураду, а так сама і рынятых на гэтай аснове практычных ерапрыёмств у саўгасах у мэтах ліквідацыі маючыхся прарываў па выкананьі і перавыкананьні промфінпляну, Прызыдыум Рэспубліканскага Камітэту экамендуе стварыць ва ўсіх цэхах, участках і саўгасах наступныя ударныя брыгады: праз каторыя павінны быць абілізаваны усе рабочыя і спэцыялісты: а) брыгада па камплектаваньню тада і задачы таварнай прадукцыі, б) брыгада па арганізацыі працы, в) брыгада па будаўніцтву, г) брыгада а вярбоўцы рабочых і падрыхтоўцы масавых кваліфікацыі, д) брыгада па аляпшэньні культурна—бытавых умоў рабочых.

6) Рэалізацыя пастановы ЦК ВКП(б) СНК СССР у бліжайшую дэкаду павінна даць па ўсім саўгасам: правільную арганізацыю працы, пераводу усіх работ на зьдзельную і здзельна—прэміальную сыстэму, максімальный переход ад групавой да індывідуальнай зьдзельшчыны, поўную ліквідацыю абязьлічкі, устраненьне ураўнілаўкі ў зарплаце, правядзеньне хозразрахунка, рэжыма эканоміі, мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў саўгасаў, стражайшай дысцыпліны і адказнасьці за даручаную работу. У выніку гэтага павінны быць выкананы і перавыкананы пляны па камплектаваньні саўгасам стадам сьвіней жывелы і поўнай здачы у тэрміны таварнай прадукцыі, забесьпячэньне 100% будаўніцтва завярбавана неабходная колькасьць рабочых, рашуча палепшана культурна—бытавое абслугоўваньне рабочых саўгасаў, поўнасьцю і своячасова праведзяна уборачная кампанія і падрыхтоўка да асеньне пасеўной кампаніі.

7) Плян здачы таварнай прадукцыі саўгасамі знаходзіцца пад яўнай пагрозай зрыву—саўгасы Белсаўгастрэсту за 1-ую палову 1931 г. павінны былі здаць на 9.000.000 руб. а здалі усяго толькі на 6.348.000 руб. саўгасы жа „Сьвінавод“ замест прадугледжаных па пляну 2.650 галоў здалі 2.181 галаву. Пры чым Белсаўгастрэст ня ведае, як ідзе здача таварнай прадукцыі па асноўным відам (малако, сыр, масла, мяса), а кантора „Сьвінавода“ ня мая вучоту па якасьці і весу таварнай прадукцыі. а вядзе вучот толькі па падліку пагалоўя. Прэзыдыум абавязвае трэсты, дырэкцыі і рабачкомаў саўгасаў тэрмінова устанавіць правільны і дасканальны вучот і забясьпечыць выкананьне пляну па здачы таварнай прадукцыі. Праз 2 дэкады заслухаць на Прэзыдыуме даклады трэстаў і паасобных саўгасаў, аб выкананьні пляну па здачы таварнай прадукцыі.

8) Прыняць наступны плян падрыхтоўкі кадраў масавай кваліфікацыі да канца 1931 г.: па Белсельтрэсту—933 ч. праз курсы і 3000 чал. праз падрыхтоўку ў саўгасах. Праз школы сельгасвуча —640 чал. Па Сьвінаводу: — 2837 чал. праз курсы масавай квалефікацыі і 611 чал. праз школы сельгасвуча. Даручыць сэктару кадраў забясьпечыць правядзеньне гэтай дырэктывы ў жыцьцё з тым, каб ня менш 75% гэтай колькасьці было бы перападрыхтавана не пазьней 15 лістапада праз курсы масавых кваліфікацый.

9) Даручыць Культ. Сэктару Рэспубліканскага Камітэту разгарнуць работу па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод рабочых саўгасау ня менш, як 2800 чал. да вясны 1932 г. з тым каб да 1-га красавіка 1932 г. у саюзе не было непісьменных рабочых.

10) Даручыць Арганізацыйнаму і Кульмасаваму Сэктарам Рэспубліканскага Камітэта ў 2-дэкадны тэрмін аказаць дапамогу дырэкцыі Белсаўгастрэсту і Белканторы „Сьвінавод“ аб рашучай перабудове іх апарату у бок чоткага і больш лепшага аперацыйнага кіраўніцтва саўгасамі.

11) Даручыць ЦБ ІТС даць практычныя паказаньня местам аб актыўным удзеле усіх спецыялістаў па рэалізацыі пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР

12) Абавязаць усе рабочыя камітэты пад адказнасьць іх старшынь пачыная з 15/VIII прысылаць Рэспубліканскаму Камітэту падрабязныя справаздачы—інфармацыі аб прынятых мерапрыёмствах па пасьпяховай рэалізацыі па[стано]вы ЦК ВКП(б) і СНК СССР.

13) На кожным паседжаньні Пр[э]зыдыуму заслухоўваць даклады паасо[б]ных рабачкомаў аб рэзультатах рэал[і]зацыі пастановы ЦК КПБ(б) і СН[К] СССР. Арг. Сэктару забясьпечыць сва[е]часовы вызаў рабачкомаў на Пр[э]зыдыум.

# ПАСТАНОВА

## Прэзыдыуму рэспубліканскага камітэту саюзу жывёлагадоўчых саўгасаў аб разгортваньні саюзнай работы сярод будаўнічых рабочых у саўгасах.

*Апросам 12/VIII—31 года.*

Прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэта саюза рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў адзначае, што:

1) Абсалютная большасьць рабочых камітэтаў саўгасаў недаацэніваюць значэньня палітычнай важнасьці работы сярод будаўнічых рабочых. Рабачкомы яшчэ не пераключыліся на штодзённае сыстэматычнае кіраўніцтва і практычную дапамогу ў рабоце будаўнікоў.

2) Цэхавыя камітэты рабочых будаўнікоў не атрымоўваюць належнага кіраўніцтва з боку агулянасаўгаскіх рабачкомаў. У шэрагу саўгасаў яшчэ і да гэтага часу не афармлены цэх. камітэты будаўнічых рабочых і не складзен Інстытут прафгрупоргаў. У некаторых саўгасах прыём будаўнічых рабочых з саюза Будаўнікоў у наш саюз, ня гледзячы на раней дадзеныя яскравыя дырэктывы, яшчэ да гэтага часу ня скончан.

3) Масава-вытворчая работа сярод будаўнічых рабочых праводзіцца нездавальняюча. Вельмі слаба разгортваецца сярод іх сацыялістычнае спаборніцтва і ударніцтва. Пытаньнямі арганізацыі труда, нормамі вырабаткі, правядзеньнем зьдзельшчыны і зьдзельна-прэміальнай аплаты сярод рабочых будаўнікоў ніхто не займаўся і не кіруець. Таксама дрэнна зварачваецца ўвага на якасьць будаўнічых работ і зьніжэньне сабекаштоўнасьці. Работа вытворчых і тэхнічных нарад на будаўніцтве адсутнічае, не завострана ўвага рабочых і тэхнічнага пэрсаналу на рацыяналізатарскія мерапрыемствы. Дзякуючы недастаткова клясавай бдіцельнасьці і дрэннага тэхнічнага нагляду і слабасьці рабочага кантролю у асобных саўгасах яшчэ ня выкарчаваны на будаўніцтве выпадкі шкодніц[т]ва. У большасьці саўгасаў у выніку недастатковай саюзнай работы рабочы[я] масы не мабілізаваны на бальшавіцкі тэмпы па выкананьню і перавыкананьн[ю] плянаў будаўнічых работ як вытворчы[х] будынкаў, а таксама і рамонт жыль[-] лёвых.

4) Матар'яльна-бытавыя умовы будаўнічых рабочых у большасьці саўгасаў застаюцца цяжкімі. Назіраецца ра[д] фактаў хранічнай запазычанасьці п[а] зарплаце, недастаткова зьвернута ўвага на разгортваньне грамадзкага харчаваньня, дрэннае забясьпячэньне прадуктамі харчаваньня і прамтаварамі з боку каапэрацыі.

5) Дзякуючы зусім слабай культурна—масавай і палітычнай работы сярод будаўнічых рабочых ня зьнішчаны яшчэ выпадкі рвацтва, п'янства, разгільдзяйства і кулацкіх настрояў, а саюзныя арганізацыі не мабілізавалі масы рабочых і ў першую чаргу ударнікаў на безадкладнае зьнішчэньне гэтых шкодных зьявішч.

Лічачы ў далейшым такое становішча ў саюзнай рабоце сярод будаўнічых рабочых недапушчальным, Прэзыдыум рэспубліканскага камітэту прапануе усім рабачкомам саўгасаў і цэхавым камітэтам будаўнікоў безадкладна зьнішчыць вышэйпаказаныя недахопы, зрабіць рашучы перал[о]м у наладжваньні далейшай работы ад посьпеха якой залежыць поўнае выкананьне плянаў вытворчага і жыльлёвага будаўніцтва і далейшае разьвіцьцё жывёлагадоўчых саўгасаў.

У гэтых мэтах Прэзыдыум Рэспубліканскага камітэту пастанаўляе:

а) Абвясьціць з 1 па 10 жніўня „дэкаднік агляду“ саюзнай работы сярод будаўнічых рабочых саўгасаў.

б) Асноўнай задачай дэкадніка павінна быць поўная перабудова культурна—масавай і гаспадарча—палітычнай работы сярод будаўнічых рабочых. 100% мабілізацыя рабочых будаўнікоў на выкананьне і перавыкананьне плянаў вытворчага і жыльлёвага будаўніцтва. Максімальная вярбоўка будаўнічых рабочых у шэрагі ударнікаў і рашучая барацьба з лжэударніцтвам.

в) Уся работа па правядзеньню дэкадніка агляду павінна быць праведзена на рэйкі сацспаборніцтва—брыгада з брыгадай, цэх з цэхам, вучастак з вучасткам, саўгас з саугасам, а таксама неабходна шырока разгарнуць індывідуальнае сацспаборніцтва унутры кожнай брыгады.

г) У правядзеньні дэкадніка па агляду саюзнай работы сярод будаўнічых рабочых павінны быць уцягнуты усе рабочыя будаўнікі, але і рабочыя саўгаса З гэтай мэтай трэба з лепшых ударнікаў арганізаваць цэлы шэраг брыгад—прыкладна: брыгада па арганізацыі труда, брыгада па вывучэньню хода будаўніцтва, брыгада па сацыяльна--бытавым абслугоўваньні рабочых, брыгада па культмасавай рабоце, брыгада па праверцы работы рабачкомаў і цэх камітэтаў будаўнікоў і г. д. Кожная брыгада па сваей галіне вывучае становішча работы і намячае практычныя мерапрыемствы па зьнішчэньню ўсіх недахопаў.

Матар'ялам брыгад павінен быць паложан у аснову плянаў работ рабочых і цэхавых камітэтаў.

д) На спэцыяльных паседжаньнях рабачкомаў саўгасаў і цэхавых камітэтаў будаўнічых рабочых, а таксама на зьлётах ударнікаў і вытворчых нарадах павінны быць прапрацованы пытаньні аб становішчы работы сярод будаўнічых рабочых і намечаны практычныя мерапрыёмствы і пляны работ на бліжэйшы пэрыяд.

е) За час правядзеньня дэкадніка па агляду саюзнай работы сярод будаўнічых рабочых павінны быць праведзены наступныя мерапрыемствы:

1) Арганізаваць і замацаваць цэхавыя камітэты будаўнікоў і устанавіць сетку груп арганізатараў. Цэхавыя камітэты, якія былі раней арганізаваны і праявілі бяздзейнасьць у сваей рабоце павінны быць пераабраны.

2) У саўгасах, дзе працуе больш 150 асоб будаўнікоў вылучыць платных аслабанёных арганізатараў на тэрмін ня менш трох месяцаў устанавіў за іх работай неаслабны кантроль, практычную дапамогу і належнае кіраўніцтва.

3) Дабіцца паляпшэньня матар'яльна бытавых умоў будаўнічых рабочых (інтэрнат, сталовая, забесьпячэньне прадуктамі харчаваньня і прамтаварамі) аднолькава з саўгаскімі рабочымі. паставіў гэту задачу як адну з галоўных задач. Таксама прыняць захады к ліквідацыі запазычанасьці па зарплаце.

4) Правесьці прэміраваньне лепшых ударнікаў будаўнічых рабочых, увязаў гэту работу з новым масавым ростам ударнікаў і выяўленьнем лжэударніцтва.

5) На працягу жніўня месяца скончыць прыём і перадачу у наш саюз сяброў саюза будаўнікоў, работаючых на будаўніцтве ў саўгасах.

6) Правясьці вярбоўку рабочых у сябры саюза, маючых права састаяць у саюзе.

7) У ва ўсіх саўгасах, дзе маецца будаўнічая работа арганізаваць на вучастках і цэхах насьценныя газэты цэх. камітэтаў будаўнікоў, разгарнуць праз іх крытыку і самакрытыку, мабілізуючы рабочыя масы на 100% выкананьне плянаў будаўніцтва.

8) Дабіцца 100% выпіскі газэт для будаўнічых рабочых, а таксама прыняць захады к шырокаму ахопу будаўнікоў гурткавой вучобай і асабліва тэхнічнымі гурткамі (аўладаньне тэхнікай).

9) Абавязаць рабачкомы усю работу па правядзеньню дэкадніка абгляду саюзнай работы сярод будаўнічых рабочых шырока асьвятляць у насьценгазэтах, цэнтральным друку і асабліва ў газэце „Сельгасрабочы Беларусі“.

10) Абавязаць усіх сяброў прэзыдыуму і сяброў пленума Рэспубліканскага камітэта находзячыхся ў саўгасах, а таксама пасланых рабоьых брыгад безадкладна ўключыцца ў абвешчаны дэкаднік агляду саюзнай работы сярод будаўнічых рабочых і сыстэматычна інфармаваць Прэзыдыум.

11) Абавязаць рабачкомы праз кожныя 3 дні падрабязна інфармаваць рэспубліканскі камітэт аб ходзе дэкадніка абгляду саюзнай работы сярод будаўнічых рабочых.

12) Не пазьней 15 верасьня г.г, усе рабачкомы на сваіх паседжаньнях павінны падвесьці вынікі праведзенага дэкадніка і падрабязныя матар'ялы не пазьней 18-га верасьня прыслаць Прэзыдыуму Рэспубліканскага камітэту. Даручыць тав. Карпусенка разработаць і тэрмінова разаслаць па рабачкомам прыкладны пытаньнік данай справаздачнасьці.

## ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэспубліканскага Кам-ту Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых Саўгасаў аб падрыхтоўцы і правядзеньні васеньняй пасеўнай кампаніі ў саўгасах.**

*Ад 13 жніўня 1931 г.*

Вопыт мінулай вясновай пасеўнай кампаніі паказвае, што пераважная большасьць саўгасаў своечасова падрыхтаваліся і з правышэньнем выканалі пляны севу. Рабочыя масы і спецыялісты гэтых саўгасаў праявілі энтузіязм і сапраўдныя бальшавіцкія тэмпы работы. Але не гледзячы на гэтыя посьпехі прэзыдыум Рэс. Кам-ту адзначае наступныя недахопы; якія рашуча і поўнасьцю павінны быць зліквідаваны у васеньнюю сяўбу, гэта:

а) Надзвычайна маруднае ўвядзеньне зьдзельшчыны і зьдзельна-прэміяльнай сыстэмы аплаты працы. У большасьці саўгасаў цэлы шэраг фактаў, калі зьдзельшчына ігнаравалась, сабаціравалась, праводзілася фармальна-бюракратычна і пасутнасьці апашлялася, але яшчэ і зараз назіраецца гэтае зьявішча.

б) Недастаткова разгорнута соцспаборніцтва і ўдарніцтва, слабая барацьба з лжеударніцтвам і несвоечасовае прэміраваньне лепшых адлічыўшыхся ўдарнікаў.

в) Значная частка Рабачкомаў не змагла вазглавіць энтузіязму і творчага ўздыму рабочых і спэцыялістых саўгасаў у правядзеньні вяснавой сяўбы. Гэтыя Рабачкомы пляліся ў хвасьце мас і замест кіраўніцтва ўсю работу пусьцілі на апартуністычны самацёк.

г) Недастаткова былі прыняты меры да рашучай ліквідацыі абязлічкі на трактарах сельгасмашынах і конях-таму трактары мелі не больш як 50% карыснай працы, коні і сельгасмашыны не былі поўнасьцю нагружэны і ў шматлікіх выпадках скарыстовываліся не рацыянальна.

д) Не ўдзелялася дастатковай увагі своечасовай падрыхтоўцы кадраў масавай кваліфікацыі і якасьці гэтай падрыхтоўцы, што садзейнічала псаваньню і прастою як трактароў, а таксама і сельгасмашын.

е) Не былі скарыстаны ўсе магчымасьці па пашырэньню пасеўных плошчаў і недастаткова вялася барацьба за выкананьне сустрэчных пляноў пасеву.

ж) Недастаткова была зьвернута ўвага Рабачкомаў на далейшае разгортваньне калектывізацыі бядняцка-серадняцкага селянства і гаспадарчае замацаваньне калгасаў.

з) Недапушчальна слабыя і безадказнае з боку большасьці рабачкомаў інформацыя і своечасовае прадстаўленьне Рэспубліканскаму К-ту зьвестак і зводак аб ходзе севу.

Зварачвае асабліва увагу усіх рабачкомаў і дырэкцыі саўгасу на гаспадарча-палітычнае значаньне па правядзеньню бальшавіцкімі мэтадамі васеньняй пасеўнай кампаніі, своечасовай падрыхтоўкі да яе і зьнішчэньне ўсіх пералічаных вышэй недахопаў прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэту Саюзу Р.Ж.С. ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Прыняць як мінімальнае заданьне кантрольныя лічбы па засеву васеньняга кліну ў саўгасах Белсаўгастрэста—7300 га, у саўгасах Сьвінавода—9835 га.

2. Даручыць кіраўніцтву Малочна-маслянога Трэсту, якое яшчэ і да гэтага часу ня ведае і ня мае пляну пасеўнай, у 3-х дзённы тэрмін распрацаваць плян і спусьціць па сваім саўгасам кантрольныя заданьня і пляны васеньняй-пасеўнай кампаніі.

3. Прапанаваць усім рабачкомам неаслабляючы сваей увагі пасьпяхова

му сканчэньню уборачнай, зараз жа мабілізаваць рабочыя масы і спэцыялістаў на падрыхтоўку і правядзеньне васеньняй пасеўнай кампаніі такімі тэмпамі, каб скончыць сеў у ўстаноўлены Партыяй і Урадам тэрмін-5-га верасьня. Трактары, сельскагаспадарчы інвэнтар, сеялкі, збруя і др. павінны быць зараз жа адрамантаваны і прыведзены ў поўную гатоўнасьць.

4. Рабачкомам саўгасаў згодна разосланых кантрольных заданьняў васеньняга севу, зараз жа прыступіць к масаваму абгаварэньню плянаў васеньняга пляну на вытворчых нарадах, у брыгадах, вучастках і цэхах дзе павінны быц прыняты сустрэчныя пляны, распрацован падрабязна календарны плян работы і ўстаноўлен жорсткі рабочы кантроль над сваечасовым яго выкананьні выключна мэтадамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Рабочыя камітэты павінны пляны пасеўнай і сустрэчныя давесьці безадкладна не фармальна, а фактычна да кожнага рабочага ўнедрыць у яго сазнаньне і падняць адказнасьць за выкананьне, ніводнага саўгасу, вучастку і брыгады бяз сустрэчнага пляну.

5. Увесь азімы пасеў павінен утварацца выключна радковым засевам з унесеньнем поўнай колькасьці штучных угнаеньняў.

6. Усю працу саўгасаў арганізаваць такім чынам, каб абсалютна усе работы праводзіліся на падставе сапраўднай зьдзельшчыны і зьдзельна-прэміяльнай сыстэмы, забясьпечыў дакладны вучот зьдзельных работ арганізаваў вучот так, каб кожны дзень, або не пазьней як на другі дзень кожны рабочы ведаў колькі ён выпрацаваў, згодна ўстаноўленай нормы выпрацоўкі і сваю зарплату.

7. У час ходу падрыхтоўкі і правядзеньня асеньняй пасеўнай трактары з патрэбным прыцэпным інвэнтаром у асаблівасьці з сеўнякамі павінны быць максімум выкарыстованы не менш як на дзве-тры зьмены у суткі, дабіцца максімальнай вытворчасьці іх.

8. Не гледзячы на цэлы шэраг дырэктыў аб ліквідацыі абезлічкі у некатарых саўгасах яшчэ мае мейсца і на сёньнешні дзень, што апошнія не зліквідавалі (саўгас „НЕСЯТА,“ „САКОЛКІ“ і інш.).

Прэзыдыум Рэспубліканскага Кам
прапануе Рабочым камітэтам і дырэк
рам саўгасаў прыняць ўсе захады і
раз жа ліквідаваць абезлічку на
без выключэньня сельскагаспадарчых
шынах, інвентару, конях арганізава
поўнае скарыстаньне поўнай нагру
кожнай машыны, наладзіў самыя
ражлівыя адносіны да сельска гаспад
чых машын і прылад.

9. Ад посьпеху абмалоту азімых
лежыць сваечасовае правядзеньне
севу азімых, а пагэтаму прапануе
Старшыням рабачкомаў і дырэктарам с
гасаў прыняць усе захады к таму,
абмалот і сартыроўка усіх азімых ск
чыць не пазьней 15-га жніўня, перада
гатунковага насеньня скончыць да 25
жніўня і абмен павінен быць скончан
1-га верасьня.

10 Прэзыдыум абавязывае ўсе
бачкомы пры правядзеньні падрыхт
чай і асення-пасеўной кампаніі разг
нуць шырокую работу па далейш
калелтывізацыі бедняцка - серадня
гаспадарак з тым каб дырэктывы Ўра
аб калектывізацыі ў БССР ня менш
75% да веснавой сяўбы ў 1932 го
былі бы цалкам выкананы.

11. Культвыхаваўчая работа паві
зьявіцца адным з галоўнейшых ме
прыемств у час правядзеньня асень
пасеўной кампаніі і мабілізацыі рабоч
мас на выкананьне і перавыканан
плянавых заданьняў для чаго рабачко
павінны перабудаваць усю культур
масавую работу з тым, каб выкарыс
вываць усе мажлівасьці: радые, кі
шырокае асьвятленьне ў друку, на
ценных газэтах і г. д.

12. Вынікі лепшай узорнай раб
соцспаборніючыхся і ўдарнікаў неабх
на шырока папулярызаваць сярод
рабочых саўтаса даводзіць гэтыя вы
да суседніх саўгасаў і калгасаў ар
нізоўваючы пераклічку саўгасаў ас
ных брыгад праз радые газэту і д
Трэба сваечасова выяўляць лепшых уд
нікаў і прэміраваць іх праводзячы
шучую барацьбу з лжэўдарніцтвам.

13. Ва ўмовах разгорнутага наст
леньня сацыялізму па ўсім фронце і
вострана й клясавай барацьбы раб
кожнай савецкй гаспадаркі будзе ацэ
вацца не на падставе таго, як яна
славах паказвае прыклады барацьбы

альную лінію Партыі супроць вага ворагу і яго агэнтуры ўнутры ыі „правым“ і „левым“ апартуніз-а на падставе таго як кожны саў-разгортвае сапраўдныя тэмпы па ьцяўленьню напружанных задач кі ўраджаю і правядзеньня асень-:яўбы 1931 г.

Ірэзыдыум Рэспубліканскага Камі-саюзу рабочых жывёлагадоўчых саў зварачваецца да ўсіх рабочых каляктываў саўгасаў прыняць захады да правядзеньня сапраўдна бальшавіцкіх тэмпаў сканчэньня ўборачна-абмалоту і асеньняй насеннай кампаніі, разгарнуўшы пры гэтым сацыялістычныя мэтады работы сацспаборніцтва, ударніцтва і г. д.

14. Прапанаваць усім рабачкомам з 20-га жніўня дасылаць у Рэспубліканскі Камітэт зьвесткі прас кожныя 5 дзён, аб падрыхтоўчай і ходзе асеньняга севу.

## ПАСТАНОВА

### рэзыдыуму Бел. Рэспубліканскага Камітэту Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых Саўгасаў „аб ходзе сіласаваньня па жывёлагадоўчых саўгасах“.

*Ад 25/VII-31 г.*

1) Заслухаўшы даклады Трэстаў аб е сіласаваньня, Прэзыдыум Рэспуб-іскага Камітэта саюзу канстантуе, разгортваньня сіласаваньня ў жы-гадоўчых саўгасах праходзіць яўна ажаюча. Па саўгасам „Сьвінавод“ нана 719 тон (2, 1%), па Белсаў-рэсту 800 тон (1, 5%), ня гледзячы ое, што лепшы час сіласаваньня якоў праходзіць саўгасы да гэтай вы аднясьліся злачынна, гэта па-ла пад пагрозу наяўны зрыў агуль-пляну сіласаваньня.

2) Прэзыдыум Рэспубліканскага Ка-гу прапануе Трэстам, кіраўніцтву і чкомам саўгасаў безадкладна ўтва-ь каранны пералом у бок максы-ьнага разгортваньня сіласаваньня, сьпечваючага сваечасовае і поўнае ананьне пляну. Рабачкомам саўга-праз стварэньне асобных брыгад па саваньню, пры чым гэтыя брыгады нны быць арганізаваны з такім лікам, каб забясьпечыць увесь ход саваньня. Адначасова арганізаваць цыяльныя паходы па збору ўсіх ві-сарнякоў, гародняй батвы, ветачнай ы, дабіваючыся перавыкананьня пля-ях заданьняў па сіласаваньню, не абляць увагі на сваечасовае будаў-ва веж, ям, траншэй. Разгарнуць рока растлумачальную кампанію аб чэньні сіласу сярод мас рабочых гасаў.

3) У мэтах фарсіраваньня сіласавань-ўзяць пад непасрэднае жывое кіраў-ва Рэспубліканскага Камітэта саюзу час сіласаваньня 41 жывёлагадоўчы саўгас, для чаго прымацаваць на гэтую работу 29 членаў Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту, 2-х адказных работнікаў саюзу і 10 курсантаў Воўчкавіцкіх прафкурсаў на якіх ускласьці персанальную адказнасьць за выкананьне плянаў сіласаваньня, Плянава Вытворчаму Сэктару ў аднадзенны тэрмін вызначыць саўгасы, прымацаваўшы па казаных таварышоў, адначасова забясьпечыўшы сваечасовую інфармацыю.

4.) Мясцкомам трэстаў і рабачкомам саўгасаў да 30/VII-г г. арганізаваць ударныя групы па сіласаваньню, задачай якіх павінны зьяўляцца арганізацыяй грамадзкага кантролю і дапамога, адначасова кіраўніцтву трестаў і саўгасаў вылучыць адказных асобных работнікаў па сіласаваньню.

5.) Культсэктару Рэспубліканскага Камітэту саюзу тэрмінова даць паказаньня выязджаючай „Сіняй Блюзе“ Рэспублікаанскага Камітэту па пытаньню мабілізацыі саўгаскай грамадзкасьці вакол пытаньня сіласаваньня.

6.) Даручыць рэдакцыі газэты „Сельгасрабочы Беларусі“ стварыць у жывёлагадоўчых саўгасах ня менш 5 кантрольных сіласных пастаноў, адначасова больш шырока паставіць на старонках газэты пытаньне сіласаваньня.

7.) Пастанову паслаць усім рабачкомам, трэстам, мясцкомам трэстаў, і рэдаяцыі газэты „Сельгасрабочы Беларусі„.

# ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэспубліканскага КамітэтуСаюзу рабочых жывёлагадоўчых Саўгасаў аб удзеле ў правядзеньні прызыву 1909 г.**

*Ад 29/VII-31 г.*

Рабочая кляса Савецкай краіны падкіраўніцтвам Камуністычнай партыі і яе Ленінскага ЦК неўхільна праводзіць палітыку міра, дасягаючы вялізарнейшых цосьпехаў на фронце сацыялістычнага будаўніцтва, пры наяўнасьці паглыбленьня сусьветнага крызісу ў капіталістычных краінах абвастраюцца клясавыя супярэчнасьці і як ніколі праводзіцца ліхаматкавая падрыхтоўка інтэрвенцыі супроць Савецкага саюзу.

Савецкая краіна, якая мяжуецца на невялікіх абшарах з капіталістычнымі краінамі павінна трымаць мінімальную Чырвоную армію, тэхнічна-узброенную і клясава-сьвядомую, якая ахоўвае межы і забясьпечвае далейшыя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва. У верасьні г/г. па прыкладу мінулых гадоў, на зьмену чырвонаармейцам уходзячым з шэрагаў чырвонай арміі ўдзе праводзіцца прызыў нараджэньня 1909 г. па гэтаму ўсе рабочыя камітэтаў саўгасаў павінны за раз жа разгарнуць шырокую падрыхтоўчую масавую работу пад лёзунгам: Кожны рабочы прызыву 1909 г. павінен быць ударнікам выкананьня прамфінпляну, рыхтуючымся стаць ударнікам, энтузіястам чырвонаармейцам.

1) Рабачкомы намейсцох павінны зараз-жа зьвязацца з Райвыканкомамі, заслухаць іх даклады на пасяджэньнях рабачкомаў аб прадстаячым прызыве, там дзе будуць працаваць сталыя сельскія прызыўныя камісіі вылучыць у іх прадстаўнікоў з складу рабачкомаў забясьпечыўшы іх штодзённы ўдзел у работе прызыўной камісіі.

2) Мабілізаваць рабочую грамадзкасьць вакол пытаньняў прызыву, шляхам правядзеньня агульных сходаў прызыўнікоў па сельсаветам і ў раённых цэнтрах і агульныя сходы рабочых прысьведчаныя прадстаячаму прызыву правядзеньня з прызыўнікамі і рабочымі гутарак, вечара, пытаньняў і адказаў, мастацкіх пастановак, вывешываньня ў Чырвоных куткох і клюбах лёзунгаў і аб усёй падрыхтоўчай рабоце шырока асьвятліць у насьценгазэтах і шматтыражках.

3) Ліквідацыя няпісьменнасьці і малапісьменнасьці сярод прызыўнікаў павінна быць ударнай задачай, так як няпісьменны прызыўнік ня зможа аўладаць новай тэхнікай у Р. С. Ч. А. Па гэтаму ўсе рабачкомы павінны праверыць як праводзіцца ліквідацыя няпісьменнасьці сярод прызыўнікоў, прыняўшы рашучыя меры да ліквідацыі маючыхся прарываў шляхам правядзеньня дэкадніка штурму.

4) Рабачкомам дамовіцца з партыйнымі, камсамольскімі і райпрафсаветамі аб правядзеньні „дня прызыўніка", які скарыстаць для растлумачальнай работы аб прадстаячым, прызыве, разгарнуўшы сацспаборніцтва між рабачкомамі на правядзеньня лепшай падрыхтоўчай работы

5) Уваўсей правадзімай падрыхтоўчай рабоце да прызыву рабачкомы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на выўяленьне клясава-варожага элемэнту сярод прызыўнікоў ня дапушчаць праніканьня іх у шэрагі Чырвонай Арміі (кулакоў, лішэнцаў і г. д.) зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на выяўленьне чужага элемэнту сярод сэзоньнікаў, шляхам вывешваньня сьпіскаў дапрызыўнікаў па прадпрыемствам, апублікаваньня ў насьцен газэтах і аглашэньня на агульных сходах.

6) Арганізаваць выстаўкі па біблітэкам вайсковай літэратуры, а таксама па пытаньням прызыву.

7) Выязджаючым сябрам Прэзыдыуму ў раёны даручаць праверку рабачкомаў у справе падрыхтоўкі да прызыўной кампаніі.

# ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту Саюзу рабочых жывёлагадоўчых Саўгасаў па дакладу дырэктара і рабачкома саўгаса імя „Сталіна“ аб ходзе сенауборачнай, і уборачна-сіласнай кампаніі.**

*Ад 29/VII-31 г.*

1) Прэзыдыум канстатуе. што сенаўборка ў саўгасе прайшла з наступнымі вынікамі: скошана канюшыны 209 га замест пляна 180 га, сенажаці 111,75 га замест пляна 50,72 га. Посьпехі сенаўборкі склалісь дзякуючы разьбіўке сенаўборачных работ па брыгадам, поўнаму пераводу на зьдзельшчыну ў выніку сабекаштоўнасьці уборкі цэнтнера сена 1 р. 2 к і канюшыны 66 кап.

2) Аднача́сова Прэзыдыум адзначае, што летній плян сіласаваньня выканан, на 29 Ліпеня засіласаваньня 100 тонн, па пляну 88 тонн.

3) У час правядзеньня паказаных кампаній слаба было арганізавана сацспаборніцтва і ўдарніцтва, ударніцтвам усяго ахоплена 37% (83 ч) не гледзячы на тое, што склад рабочых саўгасу прадстаўляе ў сваей большасьці былых селян і асабліва сераднякоў-аднаасобнікаў, з боку рабачкома саўгасу не вялось ніякай культвыхаваўчай работы, рабочыя баз асабліва 2-й і 3 й астаўлены на самацёк, вынікам чаго ў саўгасе маюцца значныя выпадкі пьянкі, краж, хуліганства, чаму Прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэта ставіць перад рабачкомам саўгасу безадкладна фарсіраваць гэтую работу—вызначыўшы канкрэтныя задачы грунтуючысь на пастановах 1-х Усебеларускага зьездаў нашага саюзу.

4) Адзначыць, што на зьдзельшчыну да апошняга часу не пераведзяна праца майстэрняў (кузьня, сталмашня і шорная) Усе астатнія галіны працы пераведзяны на зьдзельшчыну ў выніку перавыкананьня норм выпрацоўкі па уборцы на 15-20%.

Прэзыдыум адзначае, што ў саўгасе выяўлен зрыў зьдзельшчыны. Загадчыкам Базы Клімковічам і табельшчыкам Калішам Рабачком не рэагіраваў на гэтыя зьявішча, праўда дырэкцыя прыняла меры зьняла з працы загадчыка базы і табельшчыка.

Прэзыдыум зьвяртае ўвагу на арганізацыю і разгортваньне працы вытворчых нарад, якія да апошняга часу працавалі не сыстэматычна. У мэтах наладжваньня точнага вучоту зьдзельшчыны на 3-й базе, неабходна дырэкцыі вылучыць табельшчыка для трэцьцяй базы выканаў гэта да 3/VIII-31 г.

5) Прэзыдыум адзначае нездавальняючы рост саюзу 37% ад агульнай колькасьці рабочых, што тармозіцца недастатковай палітычна-масавай працай з рабочымі, а таму як адной з галоўных задач Прэзыдыум вызначае перад рабачкомам разгортваньне працы па ўцягненьню ў саюз ўдарнікаў.

6. Прэзыдыум даручае адміністрацыі і рабачкому саўгасу ў дэкадны тэрмін утварыць, прыняў належныя захады зьніжэньня сабекошту дзённага грамадзкага харчаваньня да кошту ня больш 60-кап.

# ПАСТАНОВА

**Прэзыдыум Рэспблікансkага Камітэту Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых Саўгасаў „аб падрыхтоўцы да новага навучальнага году і палітэхнізацыі школ“**

*Ад 9-га жніўня 1931 г.*

Сацыялістычная рэканструкцыя народнай гаспадаркі з усей рашучасьцю ставіць перад рабочай клясай задачу барацьбы за хутчэйшы ўздым палітычнага і вытворчага ўзроўню мас і ўзмацненьня тэмпаў культурнай рэвалюцыі. Аднэй з рашаючык прадпасылак культурнай рэвалюцыі зьяўляецца: увядзеньня ўсеагульнага навучаньня і па літэхнічнай адукацыі.

Прэзыдыум адзначае, што з боку большасьці рабачкомаў, дзякуючы недаацэнкі пытаньня аб усеагульным навучаньні дзеці школьнага ўзросту у мінулым годзе засталіся за бартом школы і

большасьць школ знаходзячыхся ў саўгасах засталося не палітэхнізіраваны.

Выходзячы з гэтага прэзыдыўм Рэспубліканскага камітэта пастанаўляе:

1) Прапанаваць рабачкомам шырока разгарнуць падрыхтоўчую работу да навучальнага году, шляхам склікань ня агульных сходаў і прыцягненьня да ўдзелу ў падрыхтоўцы ўсіх рабочых, спэцыялістых і прафактыву. Справу падрыхтоўкі да навучальнага году паставіць у цэнтры ўвагі рабочай грамадзкасьці, як баявую задачу культурнай рэвалюцыі, у ва ўсёй правадзімай рабоце шырока разгарнуць сацспаборніцтва на лепшую і сваечасовую падрыхтоўку да навучальнага году.

2) Абавязаць усе рабочыя камітэты саўгасаў забясьпечыць у 1931-1932-м навучальным годзе поўных 100% ахоп дзяцей школамі, падлягаючых усеагульнаму навучаньню.

3) Арганізаваць дабраахвотніцкія брыгады, прыцягнуць камсамольцаў і культармейцаў для правядзеньня дасканальнага вучоту дзяцей школьнага ўзросту, з такіч разрахункам, каб гэты вучот быў скончаны да пачатку заняткаў.

4) Паставіць пытаньне перад мясцовымі арганізацымі Наркамасьветы аб прыбліжэньні школы да саўгасу, а так сама арганізаваць практычныя мерапрыемствы і дапамогу для хутчэйшага сканчэньня рамонту і абсталяваньня школ, забясьпечаньня іх вучэбнымі прыладамі і настаўніцкім складам.

5) Паставіць пытаньне перад мясцовай каапэрацыяй аб сваечасовым забясьпечаньні дзяцей рабочых саўгасаў вопраткай і абуткам.

6) Рабачкомы павінны забясьпечыць правядзеньне падрыхтоўчай работы сярод акаляючага насельніцтва на 100 % уцягненьню ў школы дзяцей калгасьнікаў і аднаасобнікаў.

7) Прыдавая вялізарнае значэньне палітэхнізацыі школ, як базы падрыхтоўкі кадраў, рабачкомы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на камуністычнае выхаваньне дзяцей і арганічнай сувязі тэорыі з практыкай.

8) Для гэтага рабачкомы павінны арганізаваць абавязковае заключэньне між гаспадаркай і школай палітэхнічных дагавароў, у якіх павінны быць канкрэтна вызначаны аб,екты практыкі і інструктарскага кіраўніцтва практыкай вучняў з боку загадчыкаў галін гаспадаркі. Скарыстаньне вучняў на рабоце, не адносячэйся да палітэхнізацыі забараняецца.

9) Рабачкомы сумесна з настаўнікамі павінны скласьці прграмы вытворчай практыкі і прыстасаваньня іх да узростнага ўзроўню вучняў, дабіцца поўнай увязкі тэарэтычнай вучобы з практыкай і практыкі з вытворчымі задачамі гаспадаркі.

10) Ход падрыхтоўкі работы да навучальнага году павінен шырока асьвятляцца ў насьцен газэтах, шматтыражках, а таксама цэнтральных газэтах, асабліва ў газэце „Сельгасрабочы Беларусі“ шляхам абмена лепшым вопытам падрыхтоўчай работы.

**Выдавецтва Цэнтр. Праўл. Саюза Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў**

Адказны рэдактар **Маслава.**
Намесьнік **Карпусенка.**





Галоўлітбел № 1983. Зак. № 568—350 экз. Друк. Менспраўдому.